КУЛЬТПРОП ЦК КП(б)Б
ПРАГРАМНА-МЭТАДЫЧНАЕ БЮРО

# МЭТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ

ДЛЯ ПАРТАСЬВЕТЫ

№ 25 — ЛІСТАПАД 1931 г. — № 25

ВЫДАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА ДОМУ КАМАСЬВЕТЫ — М

## Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

### МЭТА ТЭМЫ:

1. Паказаць, што дасягненьні у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі БССР зьявіліся вынікам правільнай генэральнай лініі партыі у барацьбе на два франты за сацыялістычную індустрыялізацыю краіны і калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

2. Паказаць, што асноўнай цэнтральнай задачай далейшай пасьпяховай сацыялістычнай рэкан. с/г. зьяўляецца задача арганізацыйна—гаспад. умацаваньне калгасаў

3. Мабілізаваць слухачоў на правядзеньне канкрэтных мерапрыемстваў па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў. (мясцовага калгасу).

### ПЛЯН ПРАПРАЦОЎКІ

1. Дасягненьні ў справе калектывізацыі сельскай . спадаркі БССР.

2. Чым тлумачыцца недастатковая эфэктыўнасьць калгасаў у ў параўнаньні з тымі магчымасьцямі і перавагамі, якія дае буйная каляктыўная гаспадарка (недастатковая ўраджайнасьць, удойлівасьць, нізкі выхад таварнай прадукцыі і інш.).

3. Задачы і канкрэтныя мерапрыемствы ла арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў.

а) Барацьба са спажывецкімі тэндэнцыямі ў калгасах, як выражэньнем уплыву клясавага ворага.

б) Разьмеркаваньне ўраджаю і выкананьне абавязкаў перад дзяржавай.

б) Абагуленьне сродкаў вытворчасьці.

в) Арганізацыя працы ў калгасе (зьздельшчына. Вучот).

г) Спэцыялізацыя і падвышэньне таварнасьці калгасаў.

д) Стварэньне калгасных кадраў.

е) Арганізацыйна-гаспадарчае умацаваньне калгасаў, як адзіны шлях да узбуйненьня калгасаў.

4. Памылкі дапушчаныя у практыцы па арганізацыйна-гспадарчаму умацаваньню калгасаў.

5. Правы і „левы“ апартунізм аб арганіз.-гасп. умацаваньні калгасаў і барацьба з ім як неабходная умова пасьпяховага сацыяліст. будаўніцтва на вёсцы.

### Агульна-мэтадчныя заўвагі

Разьбіраючы тэму „арганізацыйна-гаспадарчае умацаваньне калгасаў“ неабходна па кожнаму асобнаму моманту абавязкове прыводзіць канкрэтныя факты з данага калгасу, калгасаў данага раёну.

Гутарку пачаць з абгаварэньня тых дасягненьняў, якія маюцца у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі БССР. Калектывізаваны звыш 50 проц. бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, 10.092 калгасаў з колькасьцю гаспадарак каля 400.000; 57,4 проц. калектывізацыі ў раёнах МТС, 57,2 проц. і ільнаводчых раёнах, 9 раёнаў суцэльнай калектывізацыі, пашырэньне плошчы пасеву, асабліва плошчы пасеваў тэхкультур—лён з 140.000 да 230.000; перавагі буйнай каляктыўнай гаспадаркі над дробнай аднаасобнай гаспадаркай: абагуленага пасеву яравых на адну калгасную сям'ю прыходзіцца 4,04 га, а на аднаасобную толькі 2,43 га, на адну цягавую адзінку у калгасах прыходзіцца 4,5 га, у аднаасобнікаў толькі 2,3 га. На адну калгасную сям'ю прыходзіцца 0,4 га тэхкультур, на аднаасобную сям'ю толькі 0,2 га; спэцыялізацыя калгасаў: звыш 1000 МТКФ з пагалоўем у іх 126.248; 1.600 СТКФ з пагалоўем у іх 71.000 дарослых сьвінаматак, 131 ПТКФ і 43 конегадоўчых таварных фэрм.

Машынізацыя сельскай гаспадаркі: 33 МТС, з колькасьцю трактароў 1.135 і шмат іншых складаных машын.

Паказаць, што усе гэтыя перамогі зьявіліся вынікам правільнай генэральнай лініі партыі у барацьбе на два франты за сацыялістычную індустрыялізацыю краіны і калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

Далей кіраўніку трэба падкрэсліць, што дасягнутыя посьпехі у калгасным руху зьяўляюцца толькі яшчэ першапачатковымі. У рабоце калгасаў не выкарыстаны поўнасьцю тыя „магчымасьці разьвіцьця высока таварнай гаспадаркі, якія забясьпечваюцца

буйнай каляктыўнай гаспадаркай, умовамі савецкага ладу і той вялізарнай вытворчай дапамогі, якая аказваецца калгасам з боку пралетарскай дзяржавы“, паказаць на такія ненармальныя зьявішчы, як нізкая ураджайнасьць, нізкая ўдойлівасьць, зусім нізкі выхад таварных сьвіней, вялікае аседаньне таварнай прадукцыі унутры самі х калгасаў, шырока распаўсюджаныя спажвецкія настроі і вынікаючыя адсюль выпадкі рвацтва і г. д.

Адгэтуль прывесьці да вываду:

Што асноўнай цэнтральнай задачай на даным этапе зьяўляецца задача арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня існуючых калгасаў.

Высьвятліць шкоднасьць тых памылак, якія зроблены былі ў радзе раёнаў у тым напрамку, што замест арганізацыйна-гаспадарчага умацаваньня калгасаў у цэнтры увагі парторганізацый засталася пагоня за дутымі процантамі калектывізацыі. Растлумачыць сэнс пастановы Лістападаўскага Пленуму ЦК КП(б)Б у гэтай частцы, якая ставіць перад арганізацыяй задачу дабіцца вясной 1932 году ахопу 75 проц. сялянскіх гаспадарак і суцэльнай калектывізацыі да канца 1932 г. У пытаньнях аб тэмпах калектывізацыі і далейшых задачах у калгасным руху кіравацца указаньнямі ЦК УсеКП(б), якія устанаўліваюць, што „мярылам завяршэньня калектывізацыі таго . ці іншага раёну, ці вобласьці, зьяўляецца не абавязковы ахоп усіх 100 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а уцягненьне у калгасы ня менш 60—70 проц. сялянскіх гаспадарак, з ахопам ня менш 75—80 проц. пасеўных плошчаў сялянскіх гаспадарак“.

БССР, якая адносіцца па характару сельскай гаспадаркі да раёнаў спажывецкай паласы, павінна вызначыць сваю работу у галіне калгаснага руху, кіруючыся наступнымі паказаньнямі ЦК УсеКП(б) „у астатніх раёнах СССР, у тым ліку і у раёнах спажывецкай паласы, ЦК прапануе весьці работу па калектывізацыі з такім разьлікам, каб у асноўным скончыць калектывізацыю у 1932-33 г. ЦК асабліва папярэджвае арганізацыі гэтых раёнаў ад пагоні за раздутымі процантамі калектывізацыі, ЦК прапануе гэтым арганізацыям сконцантраваць увагу работнікаў на задачы палепшаньня арганізацыйна-будаўнічай работы калгасаў і умацаваньня раней за усё ільнаводчых і гародных калгасаў“.

Кіраўнік школы, альбо гуртку павінен сканцэнтраваць увагу слухачоў на наступных асноўных задачах, якія здольны арганізацыйна і гаспадарча замацаваць нашы калгасы.

## 1. Абагульненьне сродкаў вытворчасьці.

Кіраўнік маючы пад рукамі статут сельска-гаспадарчай арцелі, павінен растлумачыць слухачам, што пры ўступленьні ў калгас неабходна абагуліць ўсе асноўныя сродкі вытворчасьці: зямлю, рабочую жывёлу (коняй), прадукцыйную жывёлу, высьвятліўшы

тут-жа, што і колькі калгасьнік можа згодна статуту заставіць у сваім індывідуальным карыстаньні.

Адступленьне ад гэтага прыносіць ня мала шкоды гаспадарчаму стану калгасу, бо калгасьнік заставіўшы у сваім індывідуальным карыстаньні 1,5—2 га зямлі, не абагуліўшы кароў (апрача аднэй), каня, фактычна застаецца аднаасобнікам і гэтакі „калгасьнік" удзяляе больш увагі сваёй гаспадарцы, чым калгаснай.

З гэтакім відам правага апартунізму у практыцы калгаснага будаўніцтва трэба рашуча пакончыць, трэба калгасператварыць у сапраўдны калгас, як гэта прадугледжана статутам.

**Арганізацыя працы ў калгасах:**—Кіраўнік павінен грунтоўна і ўсебакова высьвятліць усе асноўныя прынцыпы, на аснове якіх павінна быць арганізавана праца ў калгасах. **Здзельшчына, на аснове дасканалага уліку** працы кожнага калгасьніка—асноўны прынцып у справе арганізацыі працы у калгасах, бо толькі гэта можа матар'яльна зацікавіць у працы кожнага калгасьніка і кожную калгасьніцу, падняць іх прадукцыйнасьць у працы, падняць на належную вышыню працоўную дысцыпліну у членаў калгасу.

Кіраўнік павінен паказаць яскравыя прыклады сапраўднай зьдзельшчыны, пры якой практычна ажыцьцяўляецца лёзунг „хто больш і лепш працуе—той больш і атрымоўвае" і фармальнай зьдзельшчыны, пры якой фактычна пануе „палка" якая запісваецца усім калгасьнікам, не залежна ад колькасьці і якасьці іх працы, што азначае адсутнасьць уліку працы калгасьнікаў.

Пэўныя нормы выпрацоўкі, пералічаныя у праца-дні, якія ня радзей як кожныя 5 дзён запісваюцца ў працоўныя кніжкі калгасьнікаў, пры ўліку адначасова якасьці працы калгасьнікаў—гэта і значыцца сапраўдная зьдзельшчына.

Трэба азнаёміць слухачоў з нормамі выпрацоўкі на ўсе віды с-г работ у калгасах, паказаўшы пры гэтым жывымі прыкладамі, што гэтыя установленыя нормы выпрацоўкі зьяўляюцца самымі мінімальнымі, што пры ўстанаўленьні норм выпрацоўкі на тую ці іншую работу трэба браць у аснову тыя нормы, якія выпрацоўваюць лепшыя перадавыя калгасьнікі-ўдарнікі.

**Б) Умелая расстаноўка сіл і максымальнае іх выкарыстоўваньне:** Кіраўнік павінен паказаць, якое вялікае значэньне мае для гаспадарчага замацаваньня калгасаў рацыянальнае выкарыстоўваньне людзкіх, цягавай і тэхнічных сіл у калгасах: стварэньне сталых брыгад па ворыву, сяўбе, касьбе, возцы гною, малацьбе, догляду за жывёлай і г. д., не дапушчаючы расфарміраваньня гэтых брыгад, маючы гэтыя брыгады, як сталыя адзінкі ў калгасе, гэта ў першую чаргу дысцыплінуе калгасьнікаў і падымае іх прадукцыйнасьць у працы. На жывых прыкладах кіраўнік павінен вылічыць, колькі шкоды прыносіць гаспадарчаму становішчу

калгасу той факт, што значная частка калгасьнікаў, асабліва калгасьніц пастаянна ня выходзяць на працу па той ці іншай прычыне, альбо часта і бяз уважлівых прычын, колькі шкоды церпіць калгас ад дарэмнага прастою трактароў, малацілак, ад непатрэбнай і безкарыснай паездкі калгасьніка куды небудзь (у госьці, на шлюб і г. д.).

**В) Унядрэньне сацыялістычных мэтадаў:** Кіраўнік павінен растлумачыць тое значэньне, якое набываюць новыя сацыялістычныя мэтады працы рабочых на фабрыках, заводах (датэрміновае выкананьне і перавыкананьне пляну), даказаўшы пры гэтым, што гэтыя сацыялістычныя мэтады ў працы павінны шырока ўжывацца і ў калгасах. Сацспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкі буксір, сустрэчныя пляны і інш. павінны быць асноўнымі прынцыпамі ў працы калгасаў.

Кіраўнік павінен на жывых прыкладах паказаць, як спраўляліся са сваімі задачамі ў час сяўбы (вясновай, асеньняй) уборкі, сенажацяў тыя калгасы, дзе ўжываліся гэтыя сацыялістычныя мэтады і якія вынікі ад таго, што ў калгасах працуюць па старынцы.

Кіраўнік павінен прывесьці практычныя прыклады з таго, якія вынікі ад ударнай працы для калгасу і для калгасьнікаў (калгасьнік-ударнік выпрацаваў столькі то працадзён, пры разьмеркаваньні ураджаю атрымаў столькі то; а інш. калгасьнікі, якія лодыра корчылі выпрацавалі столькі то і атрымалі столькі то).

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на тое, што камуністы і камсамольцы павінны быць застрэльшчыкамі, ініцыятарамі у справе разгортваньня сацыялістычных мэтадаў у працы калгасаў і калгасьнікаў—яны павінны весьці за сабою ўсю масу калгасьнікаў у гэтым напрамку.

**Г) Арганізацыя культ-бытавых устаноў:** Кіраўнік павінен паказаць, таксама карыстаючыся прыкладамі з калгаснага жыцьця, што часта калгасьніцы ня выходзяць на работу з тае прычыны, што яны зьвязаны з малымі дзяцьмі і кухняй. У калгасах часта недаацэньваюць справы арганізацыі дзіцячых ясьляў, пляцовак, сталовак, нават адмаўляюцца адпускаць крупу, малако для дзіцячых устаноў. Адсутнасьць у калгасах гэтакіх бытавых устаноў бязумоўна прыносяць шмат шкоды калгаснай гаспадарцы і самім калгасьнікам.

### 3. Разьмеркаваньне ўраджаю і калгасных даходаў.

Кіраўнік у першую чаргу павінен азнаёміць слухачоў з пастановамі НКЗему і Калгасцэнтру па гэтых пытаньнях; потым трэба з прыкладаў калгасаў выкрыць праваапартуністычную практыку калгасаў у гэтым пытаньні, скажэньні партыйнай лініі ў гэтай справе. Асабліва трэба выкрыць шкоднасьць для гаспадарчага

становішча калгасу кулацкай ураўнілаўкі пры разьмяркаваньні ураджаю і калгасных даходаў. „Усе ў калгасе аднолькавыя калгасьнікі—кажа кулак—таму і ўраджай трэба дзяліць пароўну“. Лодары прагульшчыкы, шкоднікі якім гэты кулацкі лёзунг выгодны, зараз-жа яго падхапляюць і пачынаецца дзялёжка.

Кіраўнік павінен грунтоўна высьвятліць, да чаго прыводзіць гэтакая дзялёжка, сена па каровах, жыта, ячменя, бульбы і іншае па сем'ях, едаках і г. д. (падзеньне працдысцыпліны, прадукцыйнасьці працы, незацікаўленасьць калгасьнікаў у лепшай працы, нават да выхаду з калгасу і на рэшце да гаспадарчага развалу калгасу).

Ураджай і ўсе калгасныя даходы павінны разьмяркоўвацца толькі па колькасьці і якасьці працы калгасьнікаў па праца-днёх, затрачаных імі за ўвесь год.

Тое самае трэба кіраўніку падкрэсьліць і пры выдачы авансаў калгасьнікам. Колькасьць праца-дзён, якасьць працы асноўны прынцып пры выдачы авансаў калгасьнікам.

## 4. Выкананьне абавязкаў перад дзяржавай.

На гэтай задачы гаспадарчага замацаваньня калгасаў кіраўнік павінен застанавіцца асабліва і гэты момант асабліва выразна даказаць, бо ў гэтым пытаньні некаторыя кіраўнікі калгасаў, асабліва падаюцца кулацкай агітацыі. Паказаць зьменшаныя лічбы ўраджаю, што ў калгасе быццам нічога няма, што калгас ня можа выканаць пляны нарыхтовак збожжа, бульбы, сена і г. д. —асноўная мэта кулацкіх заправіл у калгасах, сьвядома жадаючых гаспадарча шкодзіць і дзяржаве і калгасу.

Кіраўнік павінен паказаць, што выкананьне і перавыкананьне ўсіх абавязкаў перад дзяржавай узмацняе дзяржаву якая ў сваю чаргу ўмацоўвае гаспадарчае становішча калгасу шляхам вырабу для калгасаў трактароў і іншых машын, водпуску калгасам доўгатэрміновага крэдыту, мінэральных угнаеньняў і г. д.

Кіраўнік павінен на прыкладах паказаць слухачам, як у некаторых калгасах сёлета праводзілі кулацкую палітыку накіраваную на тое, каб з пачатку ствараць розныя фонды на корм жывёлы па нечувалых нормах, забясьпечвалі іншыя калгасныя патрэбы, а выкананьне плянаў нарыхтовак астаўлялі на апошнюю чаргу.

## 5. Павялічэньне таварнасьці калгаснай прадукцыі.

Тут перад кіраўніком стаіць задача растлумачыць, што сталае павялічэньне таварнасьці калгаснай прадукцыі здольна стала ўмацоўваць гаспадарчае становішча калгасаў, палепшыць матар'яльнае і культурнае становішча калгасьнікаў. Трэба на прыкладах, якіх нямала ёсьць, паказаць шкоднасьць для гаспадарчага становішча калгасу імкненьня ўсе спажываць у самым калгасе, не

даваць выхаду таварнай прадукцыі, разбазарваць мяса, малако, масла, яйкі і г. д.

З гэтымі спажывецкімі, рвацкімі імкненьнямі ў калгасах трэба рашуча змагацца, бо яны вядуць да гаспадарчага разбурэньня калгасаў. Тое самае трэба адзначыць у адносінах да непадзельных капіталаў у калгасах. Гэтыя непадзельныя фонды калгасаў трэба ўсямерна павялічваць, бо яны зьяўляюцца асноўнай крыніцай гаспадарчага ўзмацненьня калгасаў.

Паказаць, што пастанова аб разгортваньні калгаснага гандлю пасьля выкананьня сель/гасп. абавязкаў перад дзяржавай, мае мэтай далейшы ўздым таварнасьці калгасаў і будзе садзейнічаць гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў.

## 6. Мабілізацыя ўнутраных рэсурсаў.

Кіраўнік на жывых прыкладах павінен паказаць, што ўнутры калгасу маюцца вялікія магчымасьці мабілізацыі ўнутраных сродкаў самых калгасаў і калгасьнікаў для гаспадарчага узмацненьня калгасаў.

У справе ўкамплектаваньня ферм, у справе зьбіраньня ўцільматар'ялаў, у справе мабілізацыі грошай самі калгасьнікі могуць і павінны зрабіць шмат чаго дзеля таго, каб ўзмацніць гаспадарчае становішча сваіх калгасаў.

## 7. Барацьба з безгаспадарчасьцю і абязьлічкай.

На прыкладах кіраўнік павінен паказаць і прыцягнуць слухачоў да гэтага, якія маюцца факты безгаспадарчасьці ў калгасах, ад чаго гаспадарчае становішча калгасаў вельмі шмат церпіць. Барацьба з гэтымі фактамі безгаспадарчасьці ў калгасах, зьнішчэньне гэткіх фактаў ужо на многа ўзмацняе гаспадарку ў калгасаў. Уважлівыя, беражлівыя адносіны калгасьнікаў да жывёлы, да інвэнтару, да ўсей калгаснай маемасьці—важнейшае мерапрыемства ў справе гаспадарчага узмацненьня калгасаў. Адсюль кіраўнік павінен перайсьці да пытаньня аб поўнай ліквідацыі абязьлічкі ў калгасе, таксама карыстаючыся фактычнымі прыкладамі.

Устанаўленьне ў калгасах пэрсанальнай адказнасьці за каня, за карову, за машыну, за калёсы, захоўваньне пасяўных фондаў, за ўсю калгасную маёмасць, за даручаную работу, сталая праверка і самаправерка ў працы,—вось, што здольна арганізацыйна-гаспадарча ўмацаваць калгасы.

## 8. Узбуйненьне калгасаў.

Выходзячы з сучаснага стану калгаснага руху, кіраўнік павінен паказаць, што ў асноўнай сваей масе калгасы ў БССР зьяўляюцца

дробнымі калгасамі, што надзвычайна нявыгадна для гаспадарчага становішча калгасаў. Трэба на прыкладзе 2—3—4, дробных блізка ляжачых калгасаў даказаць, што гэтыя дробныя калгасы шмат выйгралі6, калі-б яны злучыліся ў адзін буйны калгас. Што асабліва шкодна адбіваецца на гаспадарчым становішчы калгасу —гэта існаваньне ў межах аднэй вёскі 2—3 калгасаў.

„Асноўным разьмерам калгасаў павінна быць вёска-калгас".—Сказана ў пастановах аб'яднанага Лістападаўскага Пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б. З гэтага і трэба зыходзіць. Узбуйненьне калгасаў, зыходзячы пры гэтым выключна з гаспадарчай мэтазгоднасьці, павінна значна садзейнічаць гаспадарчаму замацаваньню калгасаў.

Кіраўнік, разьбіраючы гэту тэму, павінен пры гэтым завострыць увагу слухачоў на тое, што узбуйненьне калгасаў ні у якім разе не павінна праводзіцца шляхам адміністраваньня, шляхам вырашэньня пытаньня недзе у габінэтах і канцэлярыях. Гэтак было-б шкодна. Шляхам шырокага абгавареньня гэтага пытаньня самімі калгасьнікамі, на аснове іхняга добраахвотнага жаданьня можа праводзіцца узбуйненьне калгасаў. Падкрэсьліць, што с/г. умацаваньне калгасаў адзіны шлях да ўзбуйненьня калгасаў.

## 9. Спэцыялізацыя калгасаў.

Кіраўнік павінен даказаць гаспадарчую мэтазгоднасьць для калгасаў іх спэцыялізацыі у пэўным напрамку. Ня можа быць так званага „унівэрсальнага" калгасу. Калгас арганізаваўшыся павінен адразу прыняць пэўны ухіл: калгас жывёлагадоўчы, сьвінагадоўчы, садоваагародны і г. д. Ад гэтага інтарэсы гаспадаркі у калгасе выйграюць шмат.

Кіраўнік павінен даказаць выгоднасьць для калгасу пэўнай спэцыялізацыі: лепш падбіраць і разьвіваць пэўныя сродкі вытворчасьці для жывёлагадоўчых, сьвінагадоўчых, збожжавых, садовагародніх і г. д. калгасаў, спэцыялізацыя ведаў і тэхнічных навыкаў калгасьнікаў і спэцыялістаў. Адсюль павялічэньне інтэнсыўнасьці гаспадаркі, рост прадукцыйнасьці і таварнасьці, што вядзе да яе гаспадарчага узмацаваньня.

## 10. Калгасныя кадры.

Кіраўнік павінен даць зразумець слухачам, што арганізацыйнае і гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў ёсьць цэлая праблема гэтыя мерапрыемствы, каб праводзіць трэба мець пэўную кваліфікацыю ў будаўніцтве, калгаснай буйнай гаспадаркі. Гэтай кваліфікацыі ў сучасных калгасьнікаў—ўчарашніх аднаасобнікаў, як-раз і няма. Падрыхтоўка кадраў, асабліва масавых калгасных кадраў (старшынь праўленьняў калгасаў, брыгадзіраў, паляводаў, ільнаводаў, садаводаў, сьвінаводаў, рахункаводаў і г. д.) набывае вельмі

вялікае значэньне у справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў.

Кіраўніку трэба сканцэнтраваць ўвагу слухачоў на пытаньні выкарыстоўваньня калгасных кадраў па прамому прызначэньню: часта у калгасах добра падрыхтаванага сьвінавода скарыстоўваюць ў якасьці палявода і наадварот.

## 11. Культмасавая работа:

Кіраўнік павінен са ўсёй сілай зазначыць, што усю праблему арганізацыйнага і гаспадарчага умацаваньня калгасаў трэба разумець усім калгасьнікам. Каб ўсё гэта зразумець, трэба быць культурна і палітычна сьвядомым. Гэтакая культурная і палітычная сьвядомасьць дасягаецца грунтоўнай і ўсебаковай культмасавай работай у калгасах. Трэба кожнага калгасьніка падняць на такую культурную і палітычную вышыню, каб ён стаў сапраўдным і сьвядомым членам калгасу, каб вытравіць з яго дробна-буржуазныя, прыватна-уласьніцкія думкі, настроі, тэндэнцыі, якія укараняліся у ім дзесяткі год умовамі яго жыцьця і яго працы. Трэба яго стала выхоўваць у такім напрамку, каб ён стаў дзяржаўным чалавекам, каб ён інтарэсы усяе дзяржавы заўсёды ставіў вышэй сваіх асабістых інтарэсаў, каб ён разумеў шчыльную сувязь сваіх уласных інтарэсаў і інтарэсаў калгасу і ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва. Даклад, гутарка, кніга, газэта, гурток усё павінна быць пушчана у ход дзеля падняцьця культурнага палітычнага ўзроўню калгасьнікаў.

## 12. Агонь па кулацтве і апартуністах.

Тут кіраўніку трэба на прыкладах паказаць выпадкі засьмечанасьці калгасаў кулацкімі элемэнтамі і завострыць пытаньне па чыстцы калгасаў ад іх. Асабліва кіраўніку трэба завострыць ўвагу слухачоў на пытаньні, як цяпер кулацтва мяняе мэтады барацьбы супроць калгаснага будаўніцтва. Зрываць работу ўнутры калгасаў—вось галоўная мэта кулакоў, як у калгасе, гэтак і па-за калгасам. Гаспадарча паслабляць калгас—вось чаго дамагаецца кулак. „Ня трэба нам сілосу, сена сёлета хапае"— кажа кулак ў летку дзеля таго, каб падарваць кармавую базу калгаса.

„Забясьпечыць перш за-ўсё свае патрэбы, а потым выканаем плян нарыхтовак"—кажа кулак ў восені з гэтай самай мэтай.

„Пляны сяўбы, нарыхтовак не рэальныя"—кажа правы апартуніст і тым самым дэзарганізуе масы, замест мабілізацыі іх на упорнае змаганьне за выкананьне плянаў.

Часта ў калгасах, асабліва найбольш адсталая частка калгасьнікаў не разумеюць гэтых кулацкіх і праваапартуністычных манэўраў і падхапліваючы іх, крычыць „Праўда, што так". У выніку церпіць гаспадарчае становішча калгасу.

Кіраўнік павінен завострыць клясавую пільнасьць слухачоў, накіроўваючы яе ў бок вострага змаганьня з кулацтвам і яго агэнтурай—правымі і „левымі“ апартуністамі.

13. Нерэшце кіраўнік, падсумоўваючы ўсе асноўныя моманты па арганізацыйна-гаспадарчаму умацаваньню калгасаў, павінен падкрэсьліць, што толькі на гэтай аснове, на аснове арганізацыйна-гаспадарчага умацаваньня калгасаў, а не шляхам пагоні за дутымі процантамі калектывізацыі, будзе вырашана праблема суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на яе аснове кулацтва, як клясы.

Апошні вывад павінен быць: ўсе сілы на арганізацыйнае і гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

---



## ЛІТАРАТУРА:

1. Рэзалюцыя Лістападаўскага Пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў—„Зьвязда“ ад 28|XI-31 г., „Зьвязда“—24|XI-31 г. перадавая.

2. М. Калмык Дзень вялікіх перамог“—выданьне ДВБ да дня „ураджаю і калектывізацыі“—стар. 12-27.

3. „Зьвязда“—20/XI-31 г.—артыкул—зьдзельшчыну ва ўсе галіны сельскай гаспадаркі.

4. „Зьвязда“—15|XI-31 г.—пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў.

5. „Правда“—ад 3|XII-31—аб арганіз.-гаспадарчым умацаваньні калгасаў.

6. М. „Калмык—Сацыялістычны сэктар сельскае гаспадаркі БССР“—выданьне ДВБ.

7. С. Кудзінаў—„Адзін з лепшых“—выданьне ДВБ.

Склаў Калмык.

Рэдкалегія: Модэль (Адк. рэдактар), Улазаў, Гурэвіч.

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Зак. № 827. Тыр. 7000. Галоўлітбел № 2050